

**Асенні марафон.** Глыбоцкія марафонцы Кастусь Бахір і Чэслаў Чарапкоўскі на трэніроўцы ў дэндрасадзе.

*Фота Ул. Скрабатуна.*


Выдавец: ПП «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

43 (551) 28 кастрычніка 2010 года Кошт **свабодны**


# Урачыстасць святога Юды Тадэвуша ў Лучаі

Сёлетняя парафіяльная ўрачыстасць з нагоды ўспаміну святога Юды Тадэвуша ў лучайскім касцёле будзе адзначацца ў суботу, **30 кастрычніка.** Яна пройдзе з нагоды 20-годдзя вяртання святыні вернікам. Цэлебраваць святую Імшу будзе Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Акрамя гэтага, арцыпастыр асвеціць устаноўленую каля касцёла фігуру апостала Юды Тадэвуша, заступніка тых, хто страціў усялякую надзею на паратунак.

Чакаюць парафіяне і прыезду святароў, якія працавалі тут на працягу апошніх 20 гадоў. Падчас фэсту выступіць гурт моладзі «Небасхіл» з мінскай парафіі Святога Яна Хрысціцеля (Серабранкаўскі дэканат), а таксама будзе арганізавана «Вёска майстроў». На заканчэнне свята — феерверк.

**Пачатак святой Імшы ў 16.00. Сардэчна запрашаем.**

***Кс. Мікалай Ліпскі***



# ÌÍÑ ïëàíóå ¢âåñö³ àäç³íóþ ñòà¢êó ïàäàõîäíàãà ïàäàòêó äëÿ ¢ñ³õ ïëàöåëüø÷ûêà¢

Андрэй Кажамякін, БелаПАН

**Міністэрства па падатках і зборах (МНС) Беларусі плануе ўвесці адзіную стаўку падаходнага падатку для ўсіх плацельшчыкаў. Пра гэта паведаміла начальнік Галоўнага ўпраўлення міжнароднага падатковага супрацоўніцтва МНС Ала Сундукова, выступаючы на 3-й Беларускай канферэнцыі па фінансах і інвестыцыях у Мінску 21 кастрычніка.**

"У найбліжэйшыя гады мы плануем змяншыць стаўку падаходнага падатку для індывідуальных прадпрымальнікаў і ўстанавіць адзіную стаўку для ўсіх плацельшчыкаў", - сказала яна, удакладніўшы, што сёння стаўка падаходнага падатку для фізасоб складае 12%, для ІП - 15%.

Што тычыцца змен у падатковым заканадаўстве ў цэлым, Сундукова паведаміла, што "ў 2011 годзе набудзе моц новая рэдакцыя «Падатковага кодэкса». Дакумент, па яе словах, "утрымлівае той састаў падаткаў, які адказвае патрабаванням, што існуюць у іншых дзяржавах".

У прыватнасці, 1 студзеня 2011 года адмяняецца транспартны збор (другі падатак на прыбытак) і падатак на паслугі. "І, такім чынам, у нас застаецца сем асноўных падаткаў", - удакладніла прадстаўнік міністэрства.

Шэраг змен закрануў падатковыя льготы. У прыватнасці, для стымулявання прытоку інвестыцый пашырана падатковая льгота па капітальных укладаннях. Прадпрыемствы будуць атрымліваць падатковыя льготы пры выкарыстанні ўласных сродкаў, сродкаў банкаў і іншых арганізацый на мэты мадэрнізацыі, рэканструкцыі і стварэння новых вытворчасцяў, а таксама на набыццё абсталявання.

Вызначаныя рэформы адбыліся і ў частцы адміністравання падаткаў: суб'ектам гаспадарання прадстаўлена магчымасць паквартальнай выплаты ПДВ. Гэта, па словах Сундуковай, дазволіць прадпрыемствам распараджацца дадатковымі сродкамі ў вытворчых мэтах, не адкладаючы грошы на выплату падаткаў.

Прадстаўнік МНС падкрэсліла, што падатковае заканадаўства Беларусі досыць ліберальнае ў адносінах да штрафных санкцый. "У нас не самыя значныя штрафныя санкцыі за парушэнне падатковага заканадаўства. Напрыклад, калі сума парушэння (недаплачаных падаткаў) складае да 1% ад сумы налічаных падаткаў, то ніякія санкцыі не прымяняюцца", - заўважала Сундукова.

МНС плануе ўвесці адзіную стаўку падаходнага падатку для ўсіх плацельшчыкаў.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Ïëþíóë³ ëþäçÿì ó äóøû

Станіслаў Раманчук

**На IV Усебеларускім народным сходзе, які мае адбыцца ўжо хутка, шмат будзе прамоў аб дасягненнях і поспехах, хоць у рэальным жыцці не ўсё так гладка.**

Вось і ў Браслаўскім раёне другі год запар калгасныя камбайны выйшлі абмалаціць участкі са збажыной насельніцтву глыбокай восенню. Асабліва "вызначыўся" ў гэтым СВК "Агра-Відзы", дзе нават тэхніку паставілі на зімовае захаванне, а асобным вяскоўцам не дапамаглі з уборкай вырашчанага ўраджаю ў вёсцы Ждэгелі. Адна з мясцовых пенсіянерак вырошчвала збожжа на плошчы паўгектара, на апрацоўку ўчастка затрацila шмат грошай, а ўзамен атрымала толькі счарнеўшае поле з абсыпаным зернем. У гаспадарцы ёсць 10 збожжаўборачных камбайнаў, аднак і на сваіх палях, як высветлілася, зацягнулі жніво да канца верасня і насельніцтву не дапамаглі. Калі вяскоўцы не працуюць у калгасе, яны ўвогуле з'яўляюцца тут людзьмі "другога гатунку", амаль што чужымі. Дарэчы, падобныя праблемы былі сёлета з абмалотам сотак і ў другой вялікай гаспадарцы аграрнага краю "Новая гвардыя". З-за такіх вось адносін да людзей ужо не дзіўна, што за апошнюю "пяцігодку" толькі на Віцебшчыне спынілі сваю дзейнасць больш за 16 тысяч прысядзібных гаспадарак насельніцтва.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ñâÿòàð – áîëüø ÷ûì ïðàôåñ³ÿ

Кастусь Александровіч

**У наш час паўсюдна назіраецца ў Беларусі сапраўдны росквіт рэлігійнага жыцця, вяртанне людзей да сваіх спрадвечных духоўных каранёў.**

У мінулым, за савецкім часам, было ўсё наадварот, і тады вернікаў і тым больш дзяцей проста не пускалі заходзіць у рэдкія дзеючыя храмы. Менавіта паўстагоддзя назад вырашыў прысвяціць сваё жыццё служэнню Госпаду і людзям айцец Яўстафій Латышонак. На той момант, як сказаў на ўрачыстай службе ў Свята-Успенскай царкве ў вёсцы Манькавічы, што ў Пастаўскім раёне, архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій, гэтае рашэнне было сапраўдным подзвігам. Жыццё маладога святара стала яшчэ цяжэйшым, бо ў грамадстве яны лічыліся ізгоямі і не мелі важкіх матэрыяльных даброт. Аднак бацюшка не здрадзіў веры, годна пранёс па жыцці свой пастырскі крыж Хрыста. Падчас малебну ў адноўленым, прыгожым храме архіепіскам Феадосій уручыў свайму маладошаму калегу протаірэю вышэйшую ўзнагароду Беларускай Праваслаўнай Царквы – ордэн Крыжа Прападобнай Еўфрасінні Полацкай. З паўвекавым юбілеем святарства павіншавалі айца Яўстафія святары царкваў раёна, праваслаўныя вернікі з Манькавіч і з райцэнтра, дзе ён таксама шмат гадоў нёс пастырскую службу.

# Ïðûãàðàäíóþ à¢òàñòàíöûþ ¢ Â³öåáñêó çàêðûþöü




Чэслаў Якубовіч

**Прыгарадная аўтастанцыя Віцебска, якая знаходзіцца на куце вуліцы Церашковай і Маскоўскага праспекта, з 1 лістапада спыняе сваё існаванне.**

Аўтастанцыю закрываюць з-за нерэнтабельнасці яе ўтрымання. Зараз усе рэйсы будуць адпраўляцца з аднаго месца - Віцебскага аўтавакзала.

Для тых пасажыраў, хто прывык рушыць ў дарогу з канца Маскоўскага праспекта, рэйсавыя аўтобусы будуць рабіць прыпынак побач з будынкам падатковай інспекцыі Першамайскага раёна - якраз насупраць былой аўтастанцыі. Усё ж, калі вы гарантавана жадаеце купіць квіток з месцам, лепш зрабіць гэта на аўтавакзале.

Âåðõíÿäçâ³íñê³ ðà¸í

# Ïàäàðóé öÿïëî äçåöÿì

Чэслаў Якубовіч

**Пад такой назвай у Верхнядзвінскім раёне зноў праходзіць добраахвотная дабрачынная акцыя.**

Яна ўпершыню стартавала ў рэгіёне восенню 2008 года, напярэдадні Дня маці па ініцыятыве мясцовага аддзела ЗАГСа. Мэты акцыі– дапамагчы канкрэтным дзеткам і іх сем'ям–зразумелыя многім людзям, колькасць яе удзельнікаў толькі ўзрастае. З'явіліся і сапраўдныя патрыёты ў гэтай гуманнай справе. Вядомы пенсіянер, у мінулым праслаўлены старшыня калгаса Вацлаў Сяргушка, па-добраму здзівіў многіх. Ён асабіста даставіў 18 кілаграм вырашчанага на ўласнай пасецы мёду і кошыкі смачных яблыкаў па некалькіх адрасах дапамогі: у два дамы сямейнага тыпу і ў сям'ю, дзе асірацелых дзетак выхоўвае бабуля. Таксама не абмінуў ветэран і радзільнае аддзяленне мясцовай райбальніцы, дзе тры маладыя мамы-парадзіхі былі прыемна здзіўлены такімі салодкімі падарункамі. Падчас адных з выхадных у райцэнтры заручыліся шлюбам адразу 10 маладых сямейных пар. Усе яны вырашылі падтрымаць выхаванцаў дзіцячага сацыяльнага прытулку і купілі для іх, акрамя лялек, яшчэ і неабходныя канцылярскія прыналежнасці. Такое дабрачыннае мерапрыемства працягнецца да канца гэтага года. Цяплом і увагай будуць акружаны і іншыя дзеткі раёна.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 28.10.10 | | | | пятн. 29.10.10 | | | | сб. 30.10.10 | | | | нядз. 31.10.10 | | | | 01.11.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | 0 | +1 | +5 | +3 | +2 | +4 | +7 | +6 | +4 | +5 | +9 | +6 | +4 | +5 | +10 | +6 | +4 | +4 | +10 |
| Ціск, мм | 753 | 752 | 750 | 747 | 746 | 744 | 745 | 747 | 749 | 749 | 750 | 749 | 749 | 748 | 749 | 749 | 748 | 748 | 749 |
| Вільготнасць, % | 85 | 84 | 69 | 83 | 91 | 95 | 88 | 89 | 90 | 98 | 87 | 90 | 87 | 92 | 68 | 88 | 93 | 91 | 71 |
| Вецер м/сек | З 1 | Ю 2 | Ю-З 3 | Ю 4 | Ю-З 4 | З 4 | З 4 | З 2 | З 2 | Ю 2 | Ю-З 3 | Ю-В 6 | Ю 5 | Ю 5 | Ю 5 | Ю 4 | Ю 4 | Ю 4 | Ю-З 4 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Беларусь будзе настойваць, як заявілі ва ўрадзе, на пераглядзе дагавора па пастаўках расійскага газу. Аднак яшчэ пытанне, ці пойдзе Крэмль насустрач свайму суседу. У пачатку кастрычніка агульная колькасць абанентаў трох сетак сотавай сувязі дасягнула ў Беларусі 9,9 мільёнаў, лідарам застаецца кампанія МТС з 4,62 млн. абанентаў. З будучага года з дапамогай праекта Gooqle TV і беларусы змогуць пры падключэнні спецпрыстаўкі глядзець не толькі каналы стандартнага тэлебачання, але і матэрыялы інтэрнэт-рэсурсаў.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Расія.** Першы віцэ-прэм'ер урада РФ Ігар Шувалаў падкрэсліў, што прававых падстаў для вырашэння спрэчкі па пошлінах на нафтапрадукты на карысць Беларусі не існуе.

**ЗША.** Эксперты МВФ спрагназавалі для Беларусі на 2011 год рост інфляцыі 10,8 %, для стабільнасці беларускай эканомікі спатрэбяцца новыя знешнія грашовыя крэдыты.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес паабяцаў, што беларускія НПЗ не будуць адчуваць недахоп нафты на многія гады наперад, нават на працягу наступных 200 гадоў.

**Грэцыя.** Як пацвердзіў міністр фінансаў Г. Папаканстанціну, краіне з-за недабору даходаў у дзяржбюджэт пакуль няма чым выплаціць у вызначаны тэрмін свае даўгі перад МВФ.

**Англія.** На марскім узбярэжжы графства Кент запрацавала буйнейшая ў свеце ветраная электрастанцыя са 100 турбін вышынёй 115 м, яна забяспечыла энергіяй 240 тысяч дамоў.

**Індыя.** Вучоныя краіны распрацавалі новую форму наноскапічных лякарстваў-крышталікаў, якія нашмат хутчэй засвойваюцца арганізмам, гэта сапраўдны прарыў у фармакалогіі.

**Украіна.** Адной з прычын дзіўных паводзін вадзіцеля аўтобуса ў страшным ДТЗ на чыгуначных пуцях ў Днепрапятроўскай вобласці мог стаць яго ўдзел у рэлігійнай секце.

**Казахстан.** У Каспійскім моры некалькі расійскіх браканьераў спрабавалі на маторнай лодцы ўцячы ад казахскіх пагранічнікаў, затым атакавалі іх кацер, адзін рускі загінуў.

**Кітай.** Гэтай восенню Цэнтрабанк краіны купіў яшчэ 108 млрд. $, яе залатавалютныя рэзервы выраслі на 194 млрд. $, аднак курс нацвалюты юаня істотна заніжаны.

**Англія.** Жыхар краіны выйграў рэкордную ў гісторыі кантынента суму 113 млн. фунтаў стэрлінгаў падчас чарговага розыгрышу папулярнай у ЕС латарэі "Еўрамільёны".

**Арменія.** На поўдні краіны адкрылі самую доўгую ў свеце канатную дарогу даўжынёй 5,7 км, прасторныя кабіны на 25 чалавек рухаюцца па ёй з хуткасцю да 37 км у гадзіну.

**Ірак.** Ісламскі суд прыгаварыў чалавека да 1 года турмы і да адразання рукі за крадзеж з магазіна салодкіх прадуктаў. Такая практыка пакарання шырока тут распаўсюджана .

**Латвія.** Сталічная мэрыя вырашыла падкормліваць усіх баброў з гарадскога канала Рыгі, а дрэвы апрацаваць спецстраўрам для ахоўы і каб звергачы іх ад пражорлівых звяроў.

**Кітай.** З-за моцных лівняў уладам прыйшлося эвакуіраваць 140 тыс. чалавек з вострава Хайнань, аб'явіць яго зонай бедства і адмяніць міжнародную велагонку "Тур Хайнані".

**Японія.** Кампанія Soni прадставіла спажыўцам новую серыю супертэлевізараў Bravia з уключаным інтэрнэт-рэсурсам, магчымасцю чытаць кнігі з вядучых бібліятэк свету.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Прычынай знікнення клієнтамі з рахункаў 5-7 млрд. рублёў у дзень кіраўнік АСБ "Беларусбанк" Н. Ермакова назвала інфармацыйную вайну СМІ РФ супраць краіны.

**Барысаў.** З-за затрымак з рамонтам цеплосетак прыйшлося памерзнуць жыхарам адразу 8 шматпавярховак , у краіне бытавыя нязручнасці перажылі жыхары 69 дамоў.

**Мінск.** Як і чакалася, ЦВК Беларусі не прадаставіў права патэнцыйным кандыдатам у прэзідэнты выступіць па ТБ і радыё ў прамым эфіры, групу У. Някляева папярэдзілі.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ падрыхтаваўся да прыёмкі пробных 80 тысяч тон венесуэльскай нафты з Украіны па нафтаправоду Адэса-Броды, што знізіць затраты на 30 USD/тона.

**Баранавічы.** Складскія запасы на тэкстыльным аб'яднанні перавысілі 23 млрд. рублёў, вытворчасць упала на ўзровень 2004 года, хоць дзяржава уклала сюды 90 млрд. рублёў.

**Салігорск.** Пасля акцыяніравання ААТ "Беларуськалій" гатова да продажу, але на такі крок улады РБ пойдуць у крайнім выпадку, пакуль знешні доўг краіны 23,2 млрд. USD.

**Гродна.** На набыццё новага абсталявання японскай кампаніі Japan Tobaccco выдзеліла дадаткова мясцовай тытунёвай фабрыцы "Нёман" бязвыплатна 2,7 млн. еўра.

**Мінск.** Выпуск аўтамабіляў на сталічным МАЗе склаў сёлета ўсяго 43,8 % да паказчыкаў дакрызіснага 2008 года, сітуацыя з прычэпамі і паўпрычэпамі - яшчэ горшая (39,8 %).

**Барысаў.** Завод медпрэпаратаў так і не знайшоў інвестараў для праекта коштам 54 млн. $ для будоўлі новага корпуса, бо тыя ставілі заводу ўмову: пазбавіцца ад стратнага калгаса.

**Навагрудак.** Міністэрства культуры Беларусі выдзеліла 100 млн. рублёў на падрыхтоўку праекта рэстаўрацыі і кансервацыі мясцовага замка XI стагоддзя на працягу 5 гадоў.

**Мінск.** Транспартная міліцыя прапанавала кіраўніцтву Беларускай чыгункі па прыкладу РФ аснасціць сучаснымі камерамі відэаназірання электрычкі і паязды дальняга руху.

**Гомель.** З-за няспраўных тармазоў перакуліўся ў вадаём ля будоўлі грувжавы пяском аўтамабіль МАЗ, вадзіцель паспеў выскачыць і выратавацца пры дапамозе лодкі МНС.

**Ганцавічы.** Са званіцы на могілках вёскі Лактышы мярзотнікі скралі старажытны звон вагой каля 100 кг, які ніхто, нават немцы, не чапалі на працягу больш за сто гадоў.

**Мінск.** На парозе знікнення аказаўся ў Беларусі пірацкі рынак DVD-прадукцыі, бо інтэрнэтправайдэры за 1 такі скачаны з сеткі дыск ( 4,7 Gb ) просяць цяпер толькі 654 рублі.

**Гродна.** Адным з сімвалаў горада стала новая бронзавая скульптура Маці Божай вышынёй 3 метры, яе ўстанавілі ля Свята-Пакроўскага катэдральнага праваслаўнага сабора.

**Мінск.** Услед за Палацам Рэспублікі ў сталіцы да канца года адкрыюцца яшчэ сучасныя 3D- залы на базе кінатэатраў "Цэнтральны" і "Салют", кіно глядзелі 3,2 млн. гледачоў.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Новалукомль.** З дапамогай кітайскай крэдытнай лініі для мясцовай Лукомльскай ДРЭС, як і для яе калегі ў Бярозе, установяць да 2013 года па новым энергаблоку ПГУ-400 МВт.

**Орша.** Першым у краіне мясцовы мясакамбінат пачаў вырабляць прадукцыю без усялякіх кансервантаў і дабаваў пад маркай "Без Е", запатэнтаваў яе і саму тэхналогію.

**Віцебск.** На тэрыторыі вобласці Мінсельгасхарч Беларусі вырашыў пабудаваць буйны свінакомплекс на 24 тыс. галоў, гэты праект прадставяць на інвестфоруме ў Германіі.

**Глыбокае.** З удзелам спартыўнага кіраўніцтва РБ і вобласці прайшло ўрачыстае адкрыццё (пасля рэканструкцыі коштам 7 млрд. рублёў) гарадскога стадыёна на 2,4 тысячы месцаў.

**Віцебск.** Цэнтр горада ўпрыгожыў новы ўрачыста адкрыты арыгінальны будынак пракуратур Чыгуначнага і Кастрычніцкага раёнаў, які ўзвялі будаўнікі будтрэста № 9.

**Шуміліна.** У раёне першымі ў вобласці перадлічылі гужавы траспарт, усяго 60 прыватных конскіх павозак, якія бясплатна прайшлі тэхагляд і атрымалі нумарныя знакі.

**Гарадок.** У райцэнтры рыхтуюцца да здачы сацыяльнага прытулку для адзінокіх старых, 17-га па ліку на Віцебшчыне, зімой у іх знойдуць цяпло амаль 600 ветэранаў.

**Полацк.** Па выніках перапісу насельніцтва горад стаў адзіным у вобласці, дзе не зменшылася колькасць насельніцтва (82,5 тысячы), жанчын тут больш за мужчын на 8 тысяч.

**Дуброўна.** Прыватная фірма "Спантэк" выпусціла ў райцэнтры першую партыю сертыфікаваных вільготных гігіенічных салфетак на вытворчай лініі, набытай ва Украіне.

**Лёзна.** Па гарачых слядах міліцыя адшукала і затрымала 56-гадовую пенсіянерку, раней судзімую за крадзяжы, якая зноў абакрала сваю суседку на 380 тыс. рублёў.

**Наваполацк.** У новым энергаэфектыўным доме, які рыхтуецца да здачы ў эксплуатацыю ў канцы года, гарадскія ўлады пабудавалі адразу 6 бясплатных сацыяльных кватэр.

**Сянно.** У райцэнтры за сродкі аўтапарка № 2 пабудавалі нарэшце станцыю дыягностыкі аўтамабіляў для абслугоўвання да 10 тысяч машын у год, на яе затрацілі 395 млн. рублёў.

**Талачын.** Жыхары раёна парадаваліся за знакамітага земляка, футбаліста і трэнера Георгія Кандрацьева, які вывёў маладзёжную зборную РБ у фінал чэмпіянату Еўропы па футболе.

**Віцебск.** Пасля дастаўкі самалётам з Калінінграда ў Мінск грузавым мікрааўтобусам даставілі ў мясцовы заапарк новага жыхара – 10-месячнага львяняці.

**Бешанковічы.** Позна вечарам на аўтадарозе Мінск-Віцебск на тэрыторыі раёна загінуў 30-гадовы пешаход без флікераў, у ДТЗ яго збілі мікрааўтобус, а потым і фура "Сканія".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**30** *хвілін* – столькі часу, як паведамілі расійскія СМІ, працягвалася днямі ў Маскве чарговае пасяджэнне Савета Міністраў па сутнасці цяпер ужо міфічнай Саюзнай дзяржавы. У такім звышрэкордным тэмпе былі абмеркаваны і прыняты рашэнні па 32-х пытаннях парадку дня. Хоць і патлумачылі гэту іх скарацечнасць бездакорнай падрыхтоўкай пытанняў напярэдадні экспертамі і рабочымі групамі, але відавочна, што будучага ў Саюзнай дзяржавы РБ і РФ, хутчэй за ўсё, няма.

Для расійскага кіраўніцтва цяпер больш важкі прыярытэт – новае інтэграцыйнае аб'яднанне трох краін у Мытным саюзе, а затым пераход да Адзінай эканамічнай прасторы. Праўда, на прайшоўшым пасяджэнні ў расійскай сталіцы краіны-партнёры ўзгаднілі асноўныя параметры бюджэта СД на 2011 год, дамовіліся і далей цесна весці каардынацыю сумесных намаганняў у рэалізацыі антыкрызісных мер, сацыяльных праграм, а таксама прынялі шэраг новых саюзных праграм у высокатэхналагічных сферах. Як станоўчы момант, бакі адзначылі тэндэнцыю росту расійска-беларускага тавараабароту, які за 8 месяцаў дасягнуў 17 млрд. USD.

Характэрна, што ўслед за гэтым у Маскве прайшла больш важная трохбаковая сустрэча кіраўнікоў урадаў Беларусі, Расіі і Казахстана, на якой абмяркоўваліся праблемныя пытанні далейшай эканамічнай інтэграцыі. Пасля даволі вострых узаемных абвінавачванняў Крэмль з афіцыйным Мінскам зрабілі шэраг спроб прымірэнчай рыторыкі. Пра гэта засведчыла і прайшоўшая "палітканрэктная" сустрэча ў Маскве з беларускімі журналістамі як дзяржаўных, так і апазіцыйных СМІ главы крамлёўскай адміністрацыі Сяргея Нарышкіна.

Больш лагодным стаў і кіраўнік расійскага ўрада Уладзімір Пуцін, які на прэс-канферэнцыі зазначыў з задавальненнем, што Беларусь адмовілася ад першапачатковых сваіх патрабаванняў стварэння двух эмісійных цэнтраў для адзінай валюты Саюзнай дзяржавы. Аднак ён назваў няправядлівым новае патрабаванне беларусаў: фарміраванне аб'яднанага Цэнтрабанка двух краін на прынцыпах 50/50. Палітолагі прагназуюць, што далейшы торг па гэтым пытанні саюзнікі прадоўжаць. У абмен на падатлівасць расіяне паабяцалі Беларусі з 2012 года наблізіць цэны на газ да ўнутрырасійскіх і адмяніць экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты.

Дарэчы, у будучым годзе Расія можа крыху павялічыць дзесьці на 400 тысяч тон сваю бяспошлінную квоту нафтавых паставак ў Беларусь і дасягнуць ўзроўню такіх паставак - 6,7 млн. тон. Адзначым, што кіраўнік расійскага ўрада пацвердзіў, што ў 2011 годзе газ у РБ будзе пастаўляцца на ўмовах цяпер дзеючага кантракта. "Газпрам" атрымаў указанні з Крамля рыхтаваць новы кантракт на 2012-2015 гады з улікам агульных стратэгічных мэтаў з прыцэлам на будову адзінай эканамічнай прасторы.

Калі наша краіна на гэта пагодзіцца, то яна павінна стварыць і для расіян сапраўды роўныя ўмовы гаспадарчай дзейнасці, без усялякіх бар'ераў. Тым часам расіяне ўсё часцей агучваюць факты выдзялення 3 млрд. долараў крэдытаў Беларусі і больш за 50 млрд.$ ускосных і прамых датацый з-за танных раней энерганосьбітаў. Яны цудоўна ўсведамляюць, наколькі важны іх рынак для беларускай эканомікі, бо па некалькіх пазіцыях яго доля займае 70-90 % экспартных паставак РБ. С. Нарышкін прама ўказаў, што менавіта беларускі бок неналежным чынам вырашаў важкія задачы, якія былі прапісаны ў Саюзным дагаворы.

Шчыра кажучы, цяпер непрыемна чытаць і слухаць у афіцыйных беларускіх СМІ тую порцыю абвінавачванняў, наколькі ўсё дрэнна на прасторы ад Смаленска да Курыл. Ужо афіцыйна Крэмль указвае на пралікі ў сацыяльна-эканамічнай палітыцы саюзніка: нягледзячы на рост беларускага ВУП, прадпрыемствы Беларусі нерэнтабельныя , працуюць на склад. На думку расіян, у нас не развіта па-сапраўднаму канкурэнцыя, прыватны сектар невялікі. Пагаджацца ці не з гэтымі папрокамі, зразумела, наша права, але прыслухацца да гэтага трэба, каб канчаткова не сапсаваць адносіны з Расіяй і адначасова не згубіць рэальны суверэнітэт і незалежнасць краіны.

*У працяг тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535), № 28 (536), №30 (538) 29, №31 (539), № 32 (540) , № 34 (542), № 35 (543), №36 (544), 38 (546), 39 (547), 40 (548); 41 (549); 42 (550) за 2010 год.*

# Ігнапаль

## і яго ваколіцы

**Генадзь Комель**

Памятаю, мы дамовіліся сустрэцца з Якавенкам у яго майстэрні, якая знаходзіцца на аўтобуснай станцыі "Кульман" у гаражы. Прыехаў на канечны прыпынак "Кульман". Але ў нас усё робіцца па знакамітай прымаўцы Чарнамырдзіна "Хацелі, як лепш, а зрабілі, як заўсёды". Ды гэта ж тралейбусная "Кульман". А гэтая "Кульман" ад той "Кульман", якая мне патрэбна, мо, кіламетры са тры, ды і чым даехаць! Вось я і спазніўся на спатканне.

Знайшоў нумар гаража – ды ён зачынены на замок. Хацеў ужо "паварочваць аглоблі" на Чыжоўку, ды бачу – ідзе Н.Н. марской паходачкай. Пaздароўкаліся. Зайшлі ў майстэрню. Адзін пакой з тэлефонам, тэлевізарам, халадзільнікам ды мяккай канапай. Другі пакой застаўлены рознымі скульптурамі, даволі вялізны. Выцягнуў Мыкола-адэсіт пляшку водкі ды з закускай, а сам ужо цёпленькі, і растлумачыў, з якой нагоды. А было гэта ў дзень першых выбараў на Украіне пасля Кучмы. І патлумачыў, што ўсе хваробы ад нерваў, адзін трыпер – ад задавальнення. Але ўкраінец Ючшанка прыйдзе да ўлады, а камунякабеларус не ўтрымаецца. Вось за гэта й вып'ем! З той чаркай ды за гэтым сталом пад настрой неважнецкі панесла на ўспаміны. Як ён упрыгожыў Глыбокае сваімі скульптурамі, нават увекавечыў таго афганца, якому стаіць помнік на Чыжоўскіх могілках. (А вось дзе яго костачкі, ніхто ўдакладніць не можа). І сапраўды, непадалёк ад магілкі майго бацькі ў Чыжоўцы стаіць помнік афганцу Мацеюну Раману Іосіфавічу. Нарадзіўся 22.11. 1958 года ў вёсцы Гулідава. У 1973 годзе скончыў Гулідаўскую васьмігодку, а ў 1977 – Віцебскі фізкультурны тэхнікум. Пасля заканчэння прызваны глыбоцкім РВК ў Савецкую Армію. Служыў у Венгрыі сувязістам. З 1979 г. працаваў кіраўніком ДСТ "Ураджай" горада Вілейкі. З 1982 г. – прапаршчык ВПС. У жніўні 1987 года накіраваны ў Афганістан. Загінуў 21.10. 1987 года. Быў збіты ракетай "Стынгер" пры ўзлёце з Кабульскага аэрапорта. Ягоным імем названа вуліца ў вёсцы Гулідава.

Злева Генадзь Комель, справа – Бэла Нарановіч.

Якавенка мне напомніў, што мне, як кінамеханіку Глыбоцкага райаддзела культуры (загадчык Калодзіч Анатоль Пятровіч) павінна быць вядома месцазнаходжанне яго скульптур. Гэта, так бы мовіць, месца ўладанняў Нарановіча – міжраённага кінапракату. Пры Хрушчове Глыбокае было цэнтрам міжраённым – на 11 раёнаў. І яшчэ мне павінна быць вядома, што жонка Нарановіча пад распіску (а мо й без яе) камусьці здала архіў Сабалеўскага Аляксандра Антонавіча. У мяне "загарэліся вушы", мне стала сорамна. Аднойчы даўно, за савецкім часам я ехаў аўтобусам з Глыбокага да Мінска. Звярнуў увагу, што мая суседка па крэслу гартае ўважліва якісьці вялізны журнал. Разгаварыліся. Ураджэнка Шаркоўшчынскага раёна, тагачасная жыхарка Гродзеншчыны гартае архіўны журнал. Яна дазволіла і мне пагартаць. Я знайшоў сваю радаслоўную і здзівіўся некаторым запісам, якіх я не ведаў. Але што цікава, дык тое ("саўкоўскае выхаванне"!), што мяне не здзівіла, куды сплывае архіўны дакумент. Калісьці загадчык Глыбоцкага райАНА Папроцкі прагаварыўся (а ён у гэтым ведаў толк, бо ён быў з гісторыкаў Папроцкіх царскіх часоў), што Нарановіч дваранскага роду.

У гаражы-майстэрні за чаркай Якавенка зрабіў мне прэзент – архіўны дакумент свайго роду – гэта пісьмовая характарыстыка першаму помніку ахвярам фашызму ў Барку за жывым подпісам народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага.

Мікалай Мікалаевіч жартаваў, што ён свае скульптуры пакрывае якойсьці фарбай, якую цяжка адрозніць ад медзі. А таму Сауліч Таццяна Дзмітрыеўна хвалявалася за лёс скульптуры Уладзіміра Ільіча Леніна – каб не здалі ў каляровы металам ,і перанесла тую скульптуру да былога райвыканкама (сучасная мастацкая школа). Сама Таццяна Дзмітрыеўна прызналася мне, што яна хвалявалася па другой прычыне: ёй надакучылі насмешачкі кшталту: "Што, бачыце, гэты калмык толькі злез з каня, Бачыце, якія ў яго крывыя ногі". І яна схавала гэтую скульптуру за бэзавым кустом.

Калі я вязу ў вандроўку сваіх сяброў паўз Глыбокае, я заўсёды заязджаю ў Барок, каб расказаць аб гэтых жудасных мясцінах тыя факты, якія ведаю мо толькі я. У адной з паездак удзельнічаў Валахановіч Анатоль Іосіфавіч, які расказаў многа цікавага матэрыялу з тых часоў, калі ён працаваў у рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Што тычыцца пошуку італьянцаў на Глыбоччыне, то ніхто лепш не расказаў, чым Сауліч Таццяна Дзмітрыеўна ў сваім артыкуле "Итальянцы в Глубоком".

*Працяг будзе*

**Схема нямецкіх абарончых збудаванняў у раёне Глыбокага па стану на 12.02.1944 г., якая захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.**

■ А.А. Федзічкін,
*намеснік начальніка Глыбокскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Шмат браканьераў затрымліваецца дзякуючы грамадзянам

Азёры і рэкі рэспублікі – наша багацце, але як мы ставімся да іх, як захоўваем. Гэтае пытанне можна задаць кожнаму з нас, бо практычна ўсе жыхары хоць раз у год, але бываюць на вадаёмах. Берагі шматлікіх азёр і рэк пасля наведвання людзьмі закіданы смеццем, дрэвы павалены, кастрышчы ад вогнішчаў– праз кожныя 2-3 метры. Шмат смецця пакідаюць пасля сябе рыбакі, асабліва тыя, якія ловяць на донкі у начны час: на вадзе застаюцца пластыкавыя бутэлькі, пенапласт, а гэта ёсць самае сапраўднае забруджанне вадаёма, і грамадзяніна можна прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці, штраф да 20 базавых велічынь. Захаване нашых вадаёмаў залежыць не толькі ад колькасці злоўленых браканьераў і наяўнасці у азёрах рыбы, але і ад чысціні берагоў.

Браканьерства–тэма асобная, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі надаюць ёй асаблівую ўвагу. Сёлета да крымінальнай адказнасці прыцягнута больш за 20 грамадзян, да адміністрацыйнай адказнасці за браканьерства прыцягнута больш за 200 чалавек, канфіскаваныя дзясяткі кіламетраў браканьерскіх сетак і сотні кілаграм незаконна злоўленай рыбы і ,як вынік, значна ўзрослая колькасць рыбы ў азёрах раёна. Але ўсё яшчэ кожны тыдзень супрацоўнікі інспекцыі затрымліваюць аматараў лоўлі рыбы сеткамі.

Шмат браканьераў затрымліваецца дзякуючы грамадзянам, неабыякавым да прыроды, да фактаў браканьерства.

Так, 23 кастрычніка 2010 года супрацоўнікам Глыбоцкай міжрайінспекцыі каля 17 гадзін на пад'ездзе да ракі Галбея Пастаўскага раёна затрымана аўтамашына «Опель» і 4 чалавекі, у багажніку машыны выяўлены броднік. Уладальнік аўтамашыны, жыхар г.п. Шаркоўшчына, растлумачыў, што хтосьці паклаў яму браканьерскую снасць у багажнік, але хто канкрэтна, ён не ведае. Напэўна, яго «добразычліўцы». Аднак інспектары не паверылі яго дзіцячым тлумачэнням і склалі адміністрацыйны пратакол, а пакаранне за дадзенае парушэнне цалкам не дзіцячае– ад 10 да 50 базавых велічынь.

19 кастрычніка 2010 года пры правядзенні прыродаахоўнага рэйду на вадасховішча ў в. Новы Пагост Мёрскага раёна затрыманы два жыхары г. Мёры, якія ажыццяўлялі лоўлю рыбы на дновыя вуды, але значна перавысілі дапушчальную колькасць кручкоў –па 20 штук. Але, паводле правіл рыбалоўства,ажыццяўляць лоўлю рыбы інтэнсіўным спосабам можна толькі на спецыяльна вылучаных вадаёмах.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя выказвае падзяку ўсім добраахвотным памочнікам і проста неабыякавым грамадзянам, якія дапамагаюць у барацьбе з браканьерствам. Памочнікаў становіцца ўсё больш, значыць, і праца інспекцыі больш эфектыўная.

Па ўсіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць: 8 - 02156-8-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# У Браслаўскім возеры выявілі марскіх крэветак, якія жылі яшчэ пры дыназаўрах

Яны з'явіліся тут каля 40 тысяч гадоў назад, у прамежку паміж двума абляднennямі, калі на поўначы Еўропы ўтварылася велізарнае возера, якое злілося з Паўночным Ледавітым акіянам. Апошні ляднік ссунуў частку гэтага возера разам з яго насельнікамі далёка на поўдзень, на тэрыторыю сучаснай Беларусі, Польшчы, Літвы.

У нашай рэспубліцы гэтыя жывёлы былі выяўлены ў дзевяці вадаёмах. Аднак поўны камплект– усе чатыры віды– насяляе толькі возера Паўднёвы Волас. Паўднёвы Волас – самае чыстае, з крышталёва-празрыстай вадой возера Беларусі і адно з унікальных азёр у Цэнтральнай Еўропе. Такога набору істот, гісторыя якіх пачынаецца з эпохі дыназаўраў, больш нідзе ў Еўропе не сустракаецца.

Гэтыя рэлікты ўяўляюць з сябе своеасаблівых рачкоў, якія вонкавым выглядам нагадваюць крэветак. Даўжыня самай вялікай з іх 20 міліметраў, а самую дробную без мікраскопа і зусім разгледзець немагчыма. Жывуць асадамі, нераўнамерна раскіданымі па дне.

Адзін з відаў вельмі падобны на крэветку-чарвяка (палазея), які жыве ў норках, што прарабляе ў грунце. У адрозненне ад яго самы буйны «рачок» (понтопорея) толькі часцяком хаваецца ў грунце, выстаўляючы вусікі і вочкі, а жыве галоўным чынам на паверхні дна. Трэці від (мизида)– амаль далёкая блізнятка крэветкі, «лётае», як шрубалёт, вытанчана закопваючыся ў глей. Чацвёрты від (лімнокаланус) уяўляе з сябе планктон і больш нагадвае «зорны» пыл з-за сваіх мікраскапічных памераў. Больш таго, у возеры Паўднёвы Волас быў выяўлены пяты від, толькі ўжо не рэліктавых рачкоў, а малюскаў.

Кіраўнік экспедыцыі Андрэй Ліхачоў распавёў пра тое, што ім ужо атрымалася зняць у рэжыме назірання, як перасоўваюцца, «абнюхваюць» і нават «фліртуюць» адзін з адным гэтыя дагістарычныя рачкі. Прычым працэс флірту ў іх настолькі неардынарны, што першапачаткова яго ледзь не прынялі за акт канібалізму. Тое, што гэтыя рачкі дагэтуль не змерлі, – лепшы камплімент чысціні нашай прыроды, піша «АИФ».



# У Віцебску дзейнічае грамадская ініцыятыва «Смецця. Больш. Няма. Віцебск»

**Чарговую акцыю па прыбіранні лясоў і паркаў у наваколлях Віцебска правялі ў мінулую нядзелю актывісты экалагічнай ініцыятывы «Смецця. Больш. Няма. Віцебск». У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі групы маладых людзей, сфарміраванай у сацыяльнай сетцы «У Кантакце».**

Прыкладна 20 чалавек прыбіралі 24 кастрычніка тэрыторыю ў лесе каля чыгуначнай станцыі Лучоса непадалёк ад горада. Гэтую ж лесапаркавую зону, толькі ў іншым месцы, яны ачышчалі ад смецця месяц таму. А самым першым аб'ектам увагі валанцёраў стала тэрыторыя каля парка Мазурына, дзе яны прыбралі прыблізна 10 гектараў.

Як паведаміў БелаПАН адзін з актывістаў ініцыятывы Уладзімір Гембіцкі, усё пачалося з таго, што маладыя людзі з Санкт-Пецярбурга, дзе некалькі гадоў таму ўпершыню з'явіўся крэатыўны экалагічны рух «Мусора. Больше. Нет», прапанавалі стварыць такую групу віцебскім карыстальнікам. У групу запрашаюць усіх тых, «каму надакучыла бачыць горы смецця ў лясах і парках» і хто жадае рэальна паўплываць на сітуацыю.

«Спачатку ініцыятыву падтрымалі мае жонка і сябры, потым на наш заклік сталі адгукацца і іншыя людзі. У асноўным гэта маладыя людзі ва ўзросце ад 21 да 27 гадоў,– казаў Гембіцкі. – Сёння ў нашай групе больш за 260 чалавек. Мы ўжо правялі тры акцыі і плануем займацца прыбіраннем лесу да халадоў, пакуль не выпадзе снег».



Паводле слоў Гембіцкага, усе акцыі праводзяцца «на голым энтузіязме». «Пластыкавыя пакеты для смецця і пальчаткі мы купляем самі. У прынцыпе, апрача жадання ўбачыць свет вакол сябе лепшым і чысцейшым, для гэтых акцый нічога і не патрабуецца. Для нас гэта найлепшы актыўны адпачынак. Асноўная праблема ў адным – знайсці транспарт для вывазу сабранага смецця з лесу. Пакуль для гэтага даводзіцца выкарыстоўваць асабістыя машыны»,–зазначыў грамадскі актывіст.

З заканчэннем сезона такіх добраахвотных «суботнікаў» удзельнікі групы «Смецця. Больш. Няма. Віцебск» плануюць зрабіць сюрпрыз выхаванцам дзіцячага дома – арганізаваць паход у тэатр. На сваёй старонцы ў інтэрнэце яны таксама аб'явілі аб зборы сродкаў, якія пойдуць на падарункі дзецям.

Групы «Мусора. Больше. Нет» дзейнічаюць у 22 гарадах СНД Санкт-Пецярбургу, Маскве, Самары, Аранбургу, Тальяці, Чарапаўцы, Чалябінску, ва Уфе, у Яраслаўлі (усе Расія), Кіеве (Украіна) і іншых. У Беларусі прыхільнікі гэтага экалагічнага руху аб'ядналіся пакуль толькі ў Віцебску.

*Таццяна Мацвеева, БелаПАН.*



# ПРААН і ЕС выдаткавалі Беларусі больш за 5 млн. еўра на новы праект у сферы аховы навакольнага асяроддзя

**25 кастрычніка ў Мінску падпісана пагадненне паміж Праграмай развіцця ААН і Еўрасаюзам аб выдаткаванні больш як 5 млн. еўра на новы праект у сферы аховы навакольнага асяроддзя.**

Подпісы пад дакументам паставілі часовы паверааны ў справах ЕС у Беларусі Жан-Эрык Хольцапфель і прадстаўнік ААН/ПРААН у Беларусі Антоніус Брук.

Як паведаміў Брук, праект «Садзеянне развіццю ўсеабдымнай структуры міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы аховы навакольнага асяроддзя ў Беларусі» будзе

рэалізаваны на працягу трохгадоўу супрацоўніцтве з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Галоўная яго задача – узмацніць патэнцыял урада Беларусі і НДА, каб яны маглі працягнуць працу ў сферы аховы навакольнага асяроддзя і закласці падмурак для прыцягнення інвестыцый ЕС і ПРААН.

Паводле слоў прадстаўніка ААН/ПРААН, асноўная ўвага будзе надавацца развіццю нарматыўнай базы ў сферы кіравання воднымі рэсурсамі і абыходжання з адходамі, захавання біялагічнай разнастайнасці. Прыкладна палова ўсіх вылучаных сродкаў пойдзе на рэалізацыю пілотных праектаў у сферы кіравання цвёрдымі бытавымі адходамі ў Мастах (Гродзенская вобласць) і Кобрыне (Брэсцкая вобласць). Адзін з кампанентаў праекта накіраваны таксама на павышэнне грамадскага вопыту ў сферы аховы навакольнага асяроддзя.

Як адзначыў Брук, прыкладам сумесных ініцыятыў ЕС, ПРААН і беларускага боку з'яўляюцца праекты ў сферы процідзеяння гандлю людзьмі, устойлівага развіцця на мясцовым узроўні і іншыя. Сукупны бюджэт гэтых ініцыятыў складае больш за 8 млн. доляраў ЗША. Цяперашні праект будзе рэалізоўвацца з улікам папярэдняга супрацоўніцтва.

Хольцапфель у сваю чаргу падкрэсліў, што прыярытэтнымі галінамі супрацоўніцтва ў сферы аховы навакольнага асяроддзя паміж ЕС і Беларуссю з'яўляюцца рашэнне праблемы бытавых адходаў і захаванне біяразнастайнасці.

Міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Цалко выказаў надзею, што рэалізацыя праекта будзе спрыяць наступнаму збліжэнню нарматыўнай базы Беларусі і ЕС, дазволіць умацаваць патэнцыял у сферы стратэгічнага планавання. Акрамя таго, праект павінен спрыяць павелічэнню вопыту шырокай грамадскасці і яе ўдзелу ў прыняцці рашэнняў па пытаннях аховы навакольнага асяроддзя.

Міністр асабліва вылучыў пілотныя праекты па кіраванні адходамі ў Кобрыне і Мастах. Іх рэалізацыя дазволіць стварыць новыя вытворчасці, працоўныя месцы, вырашыць экалагічныя і сацыяльныя праблемы на мясцовым узроўні, лічыць Цалко.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН.***




*Валянціну Іосіфаўну*

*Ляшкевіч*

**Віншуем з юбілеем!**

Единственной, родной, неповторимой
Мы в этот день «спасибо» говорим.
За доброту и сердце золотое,
Мы, мама милая, Тебя благодарим!
Пусть годы не старят Тебя никогда,
Мы, дети и внуки, все любим Тебя!
Желаем здоровья, желаем добра,
Живи долго-долго, Ты всем нам нужна.



*Муж, дзеці, унучка*

**Ксяндза**

*Юрыя Барка*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

З кожным днём цяпла ўсё менш бывае,
Ад дажджоў не высыхае дах…
І зіма ўсё ўжо футра апранае,
Каб хоць зараз вырушыць у шлях.

Ды малюнку гэтакім з натуры
Свеціць, бы праменьчык, кожны раз
Такі непаўторны ксёндз наш Юры,
Ён– як быццам сонейка для нас.

Саграває словамі, малітвай,
Ды гатовы ўсім дапамагаць,
І ў дзень ягоны нараджэння
Я хачу ксяндза павіншаваць.



Пажадаць яму здароўя, сілы,
Каб пан Бог заўжды ў апеку браў,
І каб і ў Ізраілі далёкім
У цяжкасцях заўжды дапамагаў.

*Францішка Бервячонак.*





# Шашачная інтрыга

■ **Яўген Самсонаў**

**Нават праз суткі пасля заканчэння спаборніцтваў было невядома імя каманды- пераможцы першынства Глыбоцкага раёна па шашках, якія адбыліся 25 кастрычніка ў памяшканні Глыбоцкага дзяржпрафліцэя.**

Лідары - каманды "ГЭС" і дэбютант сярод удзельнікаў "ПМК-26"– набралі аднолькавую колькасць ачкоў. Аднолькавы быў і другі паказчык – колькасць перамог. Канчатковы вынік будзе вызначаца каэфіцыентам Бергера, але гэта будзе пазней, і мы умоўна адзначым, што яны падзялілі 1-2 месцы. На 3 месцы – "Ліцэй".

У асабістым заліку на першай дошцы першае месца заняў А. Апяцёнак (ГЭС). Другое месца – І. Цыганкоў (ПМК-26). М. Цыганкоў, які выступаў па-за конкурсам за каманду «Працоўныя рэзервы», заваяваў трэцяе месца.

На другой дошцы абсалютным пераможцам вызначыўся Д. Палілейка («Працоўныя рэзервы»). Дэбютант шашачных спаборніцтваў В. Ажыль заняў другое месца. Трэцяе месца – В. Протас (Ахова).

Сярод жанчын у асабістым заліку не было роўных прадстаўніцы камбікармовага завода Ніне Калько. Анастасія Грэкава («Ліцэй») – другое месца. Вера Шылёнак (А/П-16) на трэцім месцы.

Сярод сяльгаспрадпрыемстваў (толькі невядома навошта было прыкладаць такія высілкі, бо іхняя спартакіяда праводзіцца асобна) стойка змагалася каманда СВК "Чарневічы". Паколькі яна была адна сярод СВК, то незалежна ад вынікаў гульні стала чэмпіёнам.



Планаванне камбінацый, злева А.Апяцёнак, справа М. Цыганкоў



Падчас гульні.

Былі, праўда, і не беспадстаўныя заўвагі ад удзельнікаў наконт паўнамоцтваў удзелу ў спаборніцтвах і ўзнагарод выхаванцаў А. Бацяноўскага, неаднаразовых прызёраў і пераможцаў краіны М. Цыганкова і Д. Палілейка. Перадусім, спартакіяда працоўная, і ганаровыя граматы павінны ўручацца па прызначэнні. Апроч псіхалагічнага дыскамфорту, некаторыя ўдзельнікі пацярпелі і ў матэрыяльным плане.

Усё астатняе было файна. Найбольшая за ўсе папярэднія гады колькасць каманд- удзельніц (ажно 14), упартая барацьба і інтрыгуючы фінал. Аб узроўні майстэрства і вастрыні спаборніцтваў сведчыць той факт, што нават такі знакаміты майстар шашачных камбінацый, як У. Дрэмач, не трапіў у лік прызёраў.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

1 – 7 лістапада 2010 г.







## ПАНЯДЗЕЛАК, 1 лістапада



ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ

**06.00**, **07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.15** Новости.
**06.05**, **07.10, 08.15** «Доброеутро,Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05**, **08.10** Зона Х.
**07.30**, **08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10**«В центре внимания».
**10.35**«Культурные люди».
**11.05 «Маруся»**
**12.10 «Тайна Мунакра»**
**14.05** Женское ток-шоу
**15.20**,**19.15**Новостирегиона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05**«Евровидение2010».
**16.30** Nota Bene.
**17.05«Спальный район»**
**17.40 «Маруся»**
**18.50**, **01.10** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55**«Актуальн.интервью».
**22.10 «Отчаянные домохозяйки-5»**
**23.30 «Мститель»**
**01.15** День спорта.

АНТ

**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Братья-детективы»**
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10**«Контрольн.закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50**«Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Дикий молодняк».
**16.50** «Битва титанов».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Кризис 90-х. Война за рубль».
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10**Премьера.«Голоса».
**23.15** Наши новости.
**23.30** Новости спорта.
**23.35**Спецрасследование. «Наручники как лекарство».
**00.35 «Евлампия Романова. Следствие ведет дилетант»**.
**01.25**-01.45 Ночные новости.



ТЭЛЕКАНАЛ "ЛАД"

**06.35 «Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Чисто английские убийства»** 1 с.
**09.05** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.10 «Только для Ваших глаз»**
**12.20** Пра мастацтва.
**12.50** Школа ремонта.
**13.50 «Полюби меня снова»** (Мексика).
**14.45** Мультсериал **«Дракончик и его друзья»** (Канада).
**15.00** Внеклассный час.
**15.15** Телебарометр.
**15.35** Простые упражн.
**16.05 «Налетчики»**
**16.55 «Чисто английские убийства»** 1-я с.
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.05 «Артистка из Грибова»** 1-я серия.
**20.25** «Калыханка».
**20.45** Телебарометр.
**20.50** Белорусское времечко.
**21.55 «Интерны»**
**22.30 «Универ»**
**23.05** Овертайм.
**23.35** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.30 «Налетчики»**



ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ"

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Богатая и любимая».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Карма. Расплата за грехи».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00**КонцертМ.Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «В тему».
**20.30 «БЕЗУМНЫЙ НОЯБРЬ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ПОЛУСВЕТ»**.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** «Гарадзельская унія»
**07:40** Прэс-экспрэс
**07:55** ПраСвет
**08:25** Кулінарныя падарожжы Р. Макловіча: «Флоцкі смак»
**08:50**Прыватная калекцыя
**09:15** Моўнік
**09:30** Басанож па свеце :
**09:55**«Эпоха Барадуліна»,
**10:50 «Час гонару»** 1 с
**11:35 «Тым, хто кахае»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Машына зменаў»**, серыял: 12 серыя
**17:30 «Час гонару»** 1 серыя
**18:25** Моўнік
**18:40** Госць «Белсату»
**18:55** «Дарога на Вільню», рэпартаж, 2008 г., Беларусь
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:25** Калыханка для самых маленькіх
**19:35** Еўропа сёння
**20:00** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Песня пра зубра»
**20:20** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Паранены», дак. фільм, 2005 г., Польшча
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Тым, хто кахае»**
**23:20** Аб'ектыў

